Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грош.

# НАРОДНАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту.

№. 7 — Вільня, Серада, 11-га жніуня 1926 г. — Год I.

## На адзіным шляху.

Адзіны сялянска-работніцкі фронт у Заходняй Беларусі—гэта ўжо не адно толькі добрае пажаданьне: гэта—зьдзейсьнены факт.

А зьдзейсьненьне гэтага факту пачалося і адбываецца ў улоньні Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады.

Ад самага свайго заснаваньня Грамада кінула кліч, каб да такога аб'яднаньня працоўнае вёскі і работніцкага места ісьці ня шляхам тварэньня асобна сялянскіх і асобна работніцкіх арганізацыяў, якія толькі недзе на арганізацыйных „вярхох" лучыліся-бы між сабой, а, наадварот, шляхам тварэньня *адзінае сялянска-работніцкае партыі*, якая-бы лучыла сялян і работнікаў у іх супольнай штодзеннай барацьбе за правы працоўных масаў Беларусі. І жыцьцё паказуе, што іменна гэты другі шлях—шлях Грамады—аказаўся правільным.

Будзем судзіць аб гэтым — па выніках працы Грамады.

На заклік Грамады да супольнае партыйнае арганізацыі працоўных вёскі і места адгукнуліся аднолькава горача і сяляне і работнікі. За два месяцы працы тысячы сялян афіцыяльна ўвайшлі ў склад партыі. Тое-ж сталася ў месьце. Горадня, Беласток, Бярэсьце, Пінск—найвялікшыя работніцкія цэнтры Заходняе Беларусі—з энтузьязмам прывіталі выступленьні на вечах паслоў Грамады. Тамжа ўжо пазакладаны гурткі Грамады, якія далі значную лічбу сяброў партыі. А цяпер вось мусім тут адзначыць той гарачы прыём, які сустрэла нядзельнае веча Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады сярод работнікаў сталіцы Заходняе Беларусі—*Вільні.*

Нядзельны мітынг у салі „Гэліос", на якім першы раз публічна выступіў перад работнікамі Вільні павадыр Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады пасол Б. Тарашкевіч, найлепш паказуе, што грунт дзеля працы партыі, якая сваім лёзунгам абвясьціла адзінства сялянскага і работніцкага вызвольнага руху, у Вільні істнуе. — Саля, дзе адбываўся мітынг, была перапоўнена, як ніколі. Прыйшлі ня толькі беларусы: прыйшлі работнікі ўсіх нацыянальнасьцяў, засьведчыўшы публічна, што ў барацьбе за вызваленьне працоўных—*усе работнікі браты*! А ход мітынгу паказаў, што віленскія работнікі, як палякі, так і жыды, роўна адчуваюць крыўды працоўных беларусаў места й вёскі і гатовы супольна з імі змагацца за волю.

Ідэя *адзінства сялян і работнікаў* знайшла бліскучае выяўленьне і *на віленскім груньце.*

## Беларускі сьцяг на Віленскай цытадэлі.

Вільня, сэрца беларускага адраджэнскага руху, ня гледзячы на варожыя адносіны да беларусаў з боку тутэйшае польскае буржуазіі, ужо даўно паказала, што на „нізох" насяленьня гэтага места беларушчына сустракае гарачы вотклік. І ня дзіва: то-ж вялізарная большасьць тутэйшых работнікаў — ці то самі зьяўляюцца выхаджэнцамі з беларускае вёскі, ці—сыны гэткіх выхаджэнцаў. І ўжо ў рэвалюцыйным 1905 годзе пачэснае месца ў кіраўніцтве работніцкім рухам у Вільні і Нова-Вялейцы заняла Беларуская Сацыялістычная Грамада, каля якое гуртуюцца выдатнейшыя спаміж работніцкіх дзеячоў. А хто з віленскіх работнікаў, дажыўшых ад таго часу да нашых дзён, не памятае выступленьняў нашае дзеячкі і паэткі „Цёткі" (Алёізіі з Пашкевічаў Кайрысовай), якая так захоплівала масы сваімі прамовамі на вечах, сваімі парываючымі вершамі?..

У часе нямецкае акупацыі Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Работніцкая Група зьбірае ў сваіх радох найлепшых байцоў за работніцкую справу ў м. Вільні. І на работніцкіх мітынгах, і ў агульнаработніцкіх арганізацыях праз увесь час панаваньня акупантаў голас беларускіх работнікаў іграе тут вельмі важную ролю.

Пад Польшчай нейкі час ня было чутно аб беларускім работніцкім руху ў Вільні. Але апошнія гады паказалі, што рух гэты істнуе, толькі загнаны ў падпольле. Істнуе, бо аб ім гавораць чысьленыя судовыя працэсы, гавораць такія праявы, як учасьце беларускіх работнікаў у маёвых дэманстрацыях, як вывешываньне ў дзень 1-га мая беларускіх сьцягаў на вежы Замковае Гары і на вуліцах места....

Нядзельны мітынг яшчэ раз сьцьвярджае, што ў Вільні, галоўнай цытадэляй работніцкага руху Заходняе Беларусі, ёсьць даволі мейсца дзеля беларускае працы і беларускага сялянска-работніцкага сьцягу! Дык няхай-жа праца Грамады на віленскім груньце расцьвітае, няхай у сталічным месьце нашага Краю **голас беларускага сялянства** гучыць на ўвесь сьвет **разам з голасам усіх працоўных!..**

## У справе беспадстаўнае канфіскаты.

Да лічбы найбольш балючых і руйнуючых крыўд, якія церпіць беларускае насяленьне ў Польшчы з боку ўлады, належыць перасьледаваньне беларускай прэсы. Гэтае бяскроўнае „катаваньне духа", гэтае затыканьне роту—руйнуе нашае грамадзкае жыцьцё.

„Выпадкі" забойства паасобных нумароў нячысьленых беларускіх газэт — гэткія чысьленыя, што складаюцца **ў пляновую сыстэму.**

Што гэтая сыстэма ў нас спэцыяльна шалее, ня трэба хіба даводзіць.—Частыя канфіскаты **точных перадрукаў** з легальных і нясканфіскаваных польскіх часопісяў даволі ілюструюць той „выняткови стан", які істнуе ў нас для беларускай прэсы... Другі раз падрад сканфіскаваны ў нас звычайны перадрук з № 12 варшаўскай „Трыбуны". Але апошні раз, апрача таго, сканфіскавана і перадавіца пад загалоўкам „Абарона штодзенных інтарэсаў". Гэтая канфіската настолькі характарна, што варта на ёй спыніцца даўжэй.

Зьмест артыкулу—у тым, што ён вучыць беларускіх сялян і работнікаў, як трэба — **зусім легальным шляхам** — абараняць свае штодзенныя жыцьцёвыя інтарэсы. Артыкул кажа, што пра свае балячкі і крыўды сяляне і работнікі могуць пісаць у сваю газэту, якая падасьць аб гэтым да ведама ўсяго працоўнага сьвету, што гэтым узмацняецца сусьветная салідарнасьць усіх працоўных... Артыкул кажа, што ёсьць і іншы спосаб змагацца з пануючай у нас крыўдай, калі яе церпяць ад тых ці іншых **органаў улады: гэта — пасольскія інтэрпэляцыі.** Артыкул також вучыць, як трэба бараніць працоўным свае штодзенныя інтарэсы ў барацьбе з вызыскам і крыўдамі з боку іх клясавых, сацыяльных праціўнікаў.—Вось і ўсё.

Але можа артыкул радзіць незаконныя шляхі барацьбы, радзіць праціўленьне ўладзе, гвалты, ці бунты? Нічога падобнага: артыкул кліча толькі **дружна арганізоўвацца ў партыйныя гурткі, а ў разе патрэбы—арганізавана рэагаваць проці надужыцьцяў і гвалтаў з боку ўласьнікаў і адміністрацыі.**

Урадавы Камісар на м. Вільню лічыць праступным з боку газэты, калі тая вучыць сваіх чытачоў—беларускіх сялян і работнікаў — бараніць **законнымі шляхамі** свае інтарэсы ў штодзеннай арганізаванай барацьбе з тымі, хто вызыскуе іх працу, хто надужывае сваіх уплываў і свайго багацьця, каб прыхіліць на свой бок нясумленных прадстаўнікоў дзяржаўнай улады на мясцох. Дык няўжо-ж трэба з гэтага зрабіць вывад, што ўсе гэткія надужыцьці зьяўляюцца „законнымі" і „нармальнымі"?!... Выходзе, што пан віленскі Камісар Ураду, які пэўне-ж нічога ня мае проці „абароны сваіх інтарэсаў" рознага роду ўласьнікамі, хоць яны надужываюць сваіх палітычных уплываў на адміністрацыю, — уважае праступнай і недапусьцімай—абарону сваіх штодзенных інтарэсаў крыўджанымі з усіх бакоў сялянамі і работнікамі!

Пішам мы гэта не за тым, каб пераканаць самага п. віленскага Камісара, што ён у адносінах да нас паступае несправядліва і без законнае падставы: на гэта надзеі няма ніякай. Ня больш надзеі і на тое, што на запраўды ж кампрамітуючую польскую дзяржаўнасьць дзеяльнасьць п. Камісара зьвернець увагу „маральная санацыя" ў Варшаве. Мы зварачаемся на гэтым месцы да павагі судовай улады ў Вільні, якая мае яшчэ зацьвердзіць нячуваную навет „на нашы стасункі" канфіскату № 6 нашае газэты. Здавалася-б, што судовая ўлада нейк менш павінна быць „заангажавана" ў сацыяльнай барацьбе, чым улада адміністрацыйная — прынамся ў асобе п. віленскага Камісара... Дык будзем спадзявацца, што віленскі суд, адкінуўшы вельмі небясьпечны і сумліўны матыў „абароны павагі ўлады", ня стане ў справе канфіскаты на становішча п. Камісара ўраду, але—на становішча закону.

## У Польшчы.

### Пілсудскі і сялянства.

Урад, атрымаўшы паўнамоцтва зьмяняць істнуючыя законы—паміма законадаўчых установаў, мае паміж іншым зьмяніць і прыняты Соймам кулацкі закон аб „зямельнай рэформе". Цікаўна, у якім напрамку мае быць зьменены закон, праведзены слаўнай памяці „коаліцыяй" драбнейшых абшарнікаў з пэпээсамі—проці інтарэсаў сялянства. Урад Бартля, як сьцьвярджае правая прэса, мае перад усім прысьпяшыць выкананьне „рэформы", але датаго яшчэ мае... „зрабіць пэўныя ўступкі зямельным уласьнікам". За гэта апошнія павінны будуць памагчы ўраду, стварыўшы прыватныя ўстановы, якія-б узялі на сябе абавязак выпаўніць рад даручэньняў ураду — у зьвязку з выкананьнем рэформы, ды яшчэ расстараліся-бы заграничную пазыку на гэтае выкананьне — пад гарантыю ўраду...

### Дадатак афіцэрам.

На паседжаньні рады міністраў пад старшынствам прэзыдэнта разглядалася дамаганьне ваен. міністра Пілсудскага аб дадатках да пэнсіяў афіцэрам. Міністар фінансаў пратэставаў проці дадаткаў з пункту гледжаньня скарбу; да яго далучыўся, як піша „Наш Пшэглёнд", і прэм. Бартэль. Аднак-ж, судзячы па вынікам паседжаньня рады міністраў, перамагло дамаганьне ваеннага міністра...

### Забастоўка ў Лодзі завастраецца.

„Robotnik" (№ 216) паведамляе:

„Магістрат і кіраўніцтва мястовых трамваяў занялі яўна правакацыйнае становішча супроць работнікаў. З аднаго боку яны адмаўляюцца даць адказ і манзуруюць абяцанкамі,—з другога даводзяць да вялічэзнага абурэньня пяцітысячную масу бастуючых абвесткамі аб скасаваньні ўмоў і прыёме новых, чужых работнікаў.

Пакіненыя напачатку ў магістраце старажы—уключаны цяпер у забастоўку.

На канфэрэнцыі ў ваяводзтве выявіліся факты наглага ашуканства з боку прадпрыемцаў. У свой час пад'ездныя чыгункі атрымалі дазвол на падвышэньне тарыфаў з варункам, што плата работнікам будзе таксама падвышана на 12 проц.

Тарыфы падвысілі, але галадовыя заработкі асталіся бяз зьмены. А некаторыя прадукты ў Лодзі падаражэлі тымчасам на 10 проц.

У сувязі з спыненьнем руху трамваяў,—вуліцы напоўнены аўтамабілямі. Здарыліся ўжо 5 аўтамабільных катастроф.

### Забастоўка ў Езёрне.

Забастоўка трывае ўжо 11-ты тыдзень. Паліцыя бяспраўна арыштовывае ўчасьнікаў яе. 20 асоб у сьледчым арышце. Шмат работнікаў уцякае з Езёрны ў блізкія лясы.

### Украікскі мітынг у Львове.

У Львове адбыўся шматлюдны мітынг, на якім аратары, кажучы аб зьдзеках над украінскім народам у Польшчы, пагражалі, што зьвернуцца па дапамогу да сваіх закардонных братоў, якіх, як ведама,—удвая больш на сьвеце, чым палякоў.

Паліцыя разагнала мітынг.

### Кара сьмерці.

Даразны суд у Луцку засудзіў селяніна Рыгора Закаштуя на кару сьмерці за тое, што той двойчы стрэліў з рэвальвэра ў паліцыянта Антона

Недзельскага, хочучы яго забіць. Ніводная з куль не папала.

Прэзыдэнт Рэспублікі адмовіўся памілаваць засуджанага, і прыгавор над Закаштуем споўнены 3 жніўня.

### Надужыцьці ў тытуновай манаполіі.

Італьянскія фінансісты, фінансуючыя ў Польшчы тытуновую манаполію, ня вельмі цэрамоняцца з польскім урадам, ня кажучы ўжо аб служыўцох у Польшчы. Італьянскія фірмы дастаўляюць сыр'ё для манаполіі, як аказалася. дрэннае і не адпавядаючае падпісанай умове. Цэлымі сотнямі тысяч кілёграмаў пачала ўправа манаполіі бракаваць гэтае сыр'ё, якое раней прымала моўчкі...

## Заграніцай.

### Што робіцца ў СССР?

За апошнія дні польская буржуазная прэса перапоўнена весткамі аб паважных разрухах у СССР, пагражаючых быццам радавай уладзе.

Як падае варшаўскі „Głos Prawdy", радавае пасольства ў Польшчы афіцыяльна пярэчыць гэтым весткам, называючы іх „плодам зласьлівае фантазіі".

### Стан прамысловасьці ў СССР.

Радавыя газэты пішуць, што, паводле ўрадавых даных, сёлета вытворчы плян будзе выпаўнены больш, чым на 100%, а раўнуючы з 1924—25 г. дасьць звыжку прадукцыі на 44—45%. Лічба занятых работнікаў павялічыцца на 28%, заработная плата ў чырвоных рублях—на 21%.

### Экскурсія англійскай моладзі ў Маскве.

У Маскву прыбыла група англійскіх студэнтаў работніцкага ўнівэрсытэту.

### Ізноў неспакой на Балканах.

Югаславянскі ўрад паведаміў Лігу, што для спыненьня акцыі баўгарскіх паўстанцаў у Македоніі ён павінен будзе паслаць свае войскі на тэрыторыю Баўгарыі. Дык паслы вялікіх дзяржаў зрабілі націск на... баўгарскі ўрад, каб „прыняў меры"! Трэба дадаць, што далучаныя да Сэрбіі землі—чыста баўгарскія, дык ніякай акцыі з-заграніцы там не патрэба: баўгары ў Сэрбіі ніколі не пагодзяцца з сваім лёсам паднявольнае „меншасьці".

### Забастоўка вуглякопаў у Англіі.

На гэтым тыдні адбудзецца спэцыяльнае паседжаньне Выканаўчага Камітэту прафэсіянальнага саюзу вуглякопаў. Будуць разглядацца рэзультаты галасаваньня ў справе мэмарыялу канфэрэнцыі вуглякопаў.

Генеральны сэкрэтар вуглякопаў і правадыр забастоўкі—Кук, які нядаўна аб'яжджоў усе раёны, сьцьвярджае, што настроі сярод работнікаў не ўгадовыя.

### Эканамічнае паразуменьне між Францыяй і Нямеччынай.

Падпісаны таргова дагавор між Францыяй і Нямеччынай. Дагавор мае часовы характар, пакуль будзе апрацавы дакладна—сталы.

### Францускaя валюта папраўляецца.

За час урадаваньня Пуанкарэ францускі франк падняўся ад 240 да 160 за фунт англійскі (каля 5 даляраў). Так банкі падтрымліваюць урад аб'яднанай буржуазіі, які мае зрабіць санацыю фінансаў—коштам працоўных.

### Узнаўленьне паўстанчай вайны ў Сірыі.

Паўстанчая вайна ў Сірыі ізноў усілілася. Паўстанцы добра азброены. Пачалася вялікая бітва каля Дамаску, якая трывала 10 дзён. Французы з аэрапланаў папалілі шмат вёсак. але і паложылі сваіх жаўнераў некалькі тысячаў.

### Прызнаньне краху наймітскай кампаніі ў Кітаі.

Англійскае тэлеграфнае агенцтва сьцьвярджае, што з усяго, што публікуецца ў Пэкіне, ясна адно: ўсе высілкі Чанг-Тсо-Ліна (японскі найміт) і Ву-Пэй Фу (англійскій) перамагчы народныя арміі ген. Фэнга пацярпелі крах...

### Рэвалюцыя ў Карэі.

З японскіх крыніц паведамляюць аб выбухшай у Карэі рэвалюцыі — проці японскае ўлады. Паўстанцы занялі амаль не цалком сталічнае места, выпусьцілі ўсіх палітычных вязьняў з турмаў. Далейшых вестак няма.

## Мітынг „Грамады" у Вільні.

Віленскае грамадзянства першы раз мела магчымасьць чуць справаздаўчы мітынг беларускіх паслоў 8-га гэтага жніўня ў салі кіно-тэатру „Гэліос". Як ведама, нашыя паслы дасюль ладзілі свае мітынгі на правінцыі і ў іншых гарадох.

Роўна ў назначаны час, у палове 1 е гадзіны, адчыніў мітынг пасол Бр. Тарашкевіч, папярэдзіўшы, што апрача яго мае прамаўляць яшчэ Рак Міхайлоўскі ад Грамады і пасол Шапель ад Незалежнае Хлопскае Партыі—замест захварэўшага пасла Баліна з тае самае партыі, аб выступленьні якога паведамлялі расклееныя ў месьце афішы. У прэзыдыум мітынгу быў запрошаны і пасол Бел. Сял.-Раб. Грамады—Валошын.

Пас. Тарашкевіч гаварыў вельмі спакойна аб сучаснай палітычнай сітуацыі, разьбіраючы з пункту гледжаньня сялянска-работніцкіх інтарэсаў палітыку ўраду Бартля-Пілсудскага. Але ўжо ў сярэдзіне яго прамовы з салі чуваць было правакацыйныя крыкі кучкі шпікоў, сагнаных у салю (мяшчанства ня прыйшло). Аратар даказываў, што выхад для Польшчы з гаспадарчага яе крызісу — у незабаўным правядзеньні аграрнае рэформы, якая-б збагаціла сялянства, ды тым самым падняла-б яго купчую сілу і пусьціла ў рух фабрыкі. Як на замежны рынак, пасол Тарашкевіч паказваў на СССР — гэты натуральны рынак Польскае дзяржавы.

Адзін з добра аплачаных „патрыётаў" крыкнуў: „Нех жые Пілсудскі". Другі нехта пачаў на гэтыя словы біць у далоні, але сьціх, не падтрыманы нікім. На салі ўзьняліся спрэчкі. Дзе-хто ўстаў з месца. Выбраўшы мамэнт зацішша ў гэты грамідару, аратар, запрашаючы публіку сядаць кажа: „Хай сабе жыве Пілсудскі... але перш за ўсё хай жыве інтэрас селяніна і работніка"! Шпікі маўчаць.... грыміць бура воплескаў.

Нейкі даволі значны час паслу Тарашкевічу ўдаецца гаварыць свабодна, хаця прадстаўнік улады, што сядзеў ззаду за аратарам, некалькі разоў устае і зьвяртаецца з нечым да пасла.

Аратар гаворыць аб асадніках. Кажа, што палітыка ўраду крыўдзіць беларускіх сялян і распаліває нацыянальную ненавісьць. Пілсудскі насылае нам яшчэ больш асаднікаў; гэта вяжацца з яго праграмай аграрызацыі Польшчы.

Шпіцлі равуць, як адзін чалавек. Іх дзела яснае: ім загадана сарваць мітынг...

Саля абурана. З месц трэбуюць вывясьці вон тых, хто трывожыць парадак... Усе ўстаюць... Чуваць паліцэйскі сьвісток.

З левага боку салі (не ад уваходу) зьяўляецца цэлы плютон паліцыянтаў. Яны, як відаць, былі загадзя нарыхтованы і толькі чакалі гэтага сьвістка. Паліцыянты выганяюць публіку. Нехта спусьціў на сцэне заслону, паслоў ня відаць. Публіка неахвотна і вельмі павольна пасоўваецца да выхаду і тут зьбіваецца ў кучу. Дыхаць няма чым.

Паслы ўзноў паказываюцца. Чытаюць яны рэзалюцыю ў справе палітычных вязьняў, якая кажа: „Трэбуем звальненьня палітычных вязьняў, скасаваньня наглых судоў і кары сьмерці"! Саля аднагалосна з энтузіазмам рэзалюцыю прыймае. Паліцыянты пасьля гэтага напіраюць яшчэ сільней. Ззаду за імі на салі гаворыць пылкую прамову пасол Шапель з Незалажнай Партыі Хлопскай.

На вуліцы публіка затрымліваецца. Паслоў вітаюць крыкамі: „Няхай жывуць". Кучка жыдоўскіх работніц і работнікаў пачынае сьпяваць: „Ад веку мы спалі". Песьня шырыцца. Паліцыя ўрэзываецца ў таўпу і зганяе яе на тргтуары. Так усё цягнецца аж да рогу Троцкай і Дамініканскай.

Тут ізноў запяваюць „Ад веку мы спалі". Чалавек чатырох паліцыя арыштоўвае: Віталія Радзюка, Сьвецкага, Шэрэшнеўскага і нейкага работніка — столяра. З вуліцы Жэлігоўскага зьяўляецца некалькі конных паліцыянтаў.

Прысутных было больш за тысячу чалавек.

Цікава, адзначыць, што ў аднэй з лёжаў „Гэліёсу" сядзеў на мітынгу і „сам" начальнік віленскае палітычнае паліцыі. Можна падзякаваць за ўвагу. Прадажная прэса, як трэба было спадзявацца, называе мітынг „камуністычным"...

## На беларускіх вучыцельскіх курсах.

(Радашковічы).

Невялікае мястэчка на самым краю Польшчы. У адным з дрэнных памешканьняў прытулілася беларуская гімназія, як-бы чагосьці асьцерагаючыся, баючыся. 18 ліпня—дзень урачысты. Сьвяткуецца адкрыцьцё I беларускіх вучыцельскіх курсаў, дазволеных урадам. Чуеце?—Першых ад часу далучэньня краю да Польскай Дзяржавы!..

Цяжкія думкі напаўняюць галаву... Цяжка глядзець і на самых курсантаў. Гэта ў большасьці забіты, загнаны, замучаны непамернай фізычнай працай інтэлігент.

Але вось з прамовай выступае грам. Астроўскі (дырэктар беларускай гімназіі ў Вільні). Ён гаворыць аб барацьбе, аб змаганьнях за адраджэньне Беларусі. І вось гэта маса будзіцца... устае... ўжо жыве... жыве жыцьцём духовым, падымаецца вышэй...

Ня ведаю, што гэта за сіла, што будзіць іх...

Другі прамоўца грам. Гаўрылік малюе абразкі нашай Бацькаўшчыны. Перад вачыма слухачоў праносяцца адна за аднэй нашы вёскі з іх цемрай, нэндзай. Ён кліча, просіць, пасылае на барацьбу з гэнай цемрай. Кажа нясьці туды сьветач навукі,—кажа асьвяціць усе цёмныя куткі...

І ізноў праз галаву праносяцца смутныя, маркотныя думкі, як тыя васеньнія хмаркі на небе... Ці многа ёсьць тут гэрояў? Ці хваце сілы для барацьбы?..

— Хопіць!.. бо ўжо ідзе праца... бо ўжо даўбуць каменшчыкі тую скалу!..

Далучымася да іх!.. Добра ведаю, што зраўняем тую скалу, працярэбім сабе шлях!..

**П. Назарук.**

## Міжпартыйны Камітэт для барацьбы за звальненьне палітычных вязьняў у Вільні.

4 г. м. адбылося міжпартыйнае паседжаньне прадстаўнікоў: 1) Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, 2) Незалежнай Мужыцкай Партыі і 3) Лявіцы Прафэсыянальных Саюзаў у Вільні.

Прысутныя пастанавілі залажыць Міжпартыйны камітэт дзеля барацьбы за звальненьне палітычных вязьняў. Сэкрэтаром выбраны пасол Сабалеўскі. Кватэра сэкрэтарыяту: Antokolska 58.

Міжпартыйная нарада зьвернецца да ўсіх работніцкіх і сялянскіх партый з прапазіцыяй уступленьня ў Камітэт. Другой задачай, якую стаўляе сабе новая арганізацыя — ёсьць сканцэнтраваньне ўсей акцыі ў справе палітычных вязьняў у Заходняй Беларусі.

Аб заснаваньні Камітэту павядомлена староства.

## З жыцьця „Грамады".

### Забарона мітынгаў.

Мітынг паслоў Грамады Мятлы і Рак-Міхайлоўскага ў Востраве, Маладэчанскага павету, назначаны на суботу 7 гэтага жніўня, не адбыўся з прычыны неатрыманьня дазволу ад Віленскага Ваяводы.

Цэнтральным Сэкрэтарыятам Грамады ў Вільні атрыманы ад Дзісенскага Староства адмоўны адказ № 996 на мітынг паслоў Грамады — Мятлы і Рак-Міхайлоўскага ў Дзісьне, які меўся адбыцца там 10-га жніўня. Мітынг павінен быў адбыцца ў закрытым памяшчэньні.

## ХРОНІКА.

**Ад Рэдакцыі.** Просім сяброў, прысылаючых рэзалюцыі, ці то ў справе ППС (Polskiej Partji Socjalistycznej), ці іншых, — пісаць, **на якім сходзе яны прыняты** (грамады, быўшай арганізацыі ППС і г. д.). Ня ведаючы, які гэта сход,—мы ня можам зьмяшчаць рэзалюцыі. Рэзалюцыя павінна быць падпісана старшынёй сходу і сэкрэтаром.

**Справа „33-ох" у віленскім судзе.** У панядзелак 9 жніўня ў Віленскім Акружным судзе быў назначаны разгляд справы 33 беларусаў-жыхараў Навагрудчыны, якія—быццам-то,—„стварылі азброеную арганізацыю" з мэтамі „фармаваць дывэрсыйна паўстанчыя атрады, рабіць напады на цягнікі, паліцэйскія пастарункі, мястэчкі і двары, распаўсюджываць камуністычныя лёзунгі сярод вясковага насяленьня ды падрыхтоўваць аружнае паўстаньне проці польскіх улалаў", каб у адпаведным мамэньце—скінуць апошнія, „зваліць дзяржаўны лад у Польшчы" і,—зразумела!—„адарваць усходнія ваяводзтвы ад Польскай дзяржавы"...

Так паведамляюць віленскія газэты.

Справа гэтая прадстаўляе найбольш яркі прыклад правакацыі, на якой пабудавана ўсё абвіненьне. На судзе факт правакацыі мусіць быць устаноўлены з поўнай відавочнасьцяй. З прычыны таго, што справа адложана, ня можам падаць усіх матэрыялаў, датычаючых гэтага бяспрыкладнага працэсу.

**Цікаўнае здарэньне ў Лідзе.** „Gazeta Warsz. Poranna" друкуе гэткую вестку з Ліды:

Надовячы ў Лідзе адбываліся муштры 11 палка лятуноў. Калі колькінадцаць аэрапланаў знаходзіліся на паветры, з аднаго з іх пасыпаўся град лістовак. У лістоўках была надрукована гарачая адозва проці таго, што на чале міністэрства вайсковых спраў стаяць людзі, якія прымалі ўчасьце ў маёвым замаху.

Устанавіць, з каторага аэраплану яны былі кінуты, не ўдалося.

**Безработныя інтэлігенты і віленскі магістрат.** Нядовячы ў віленскім магістраце здарыўся вялікі скандал на груньце адносінаў да безработных інтэлігентаў.

Пры выдачы бясплатных абедаў безработным інтэлігентам аказаліся пазбаўленымі гэтае дапамогі ад места каля 30 асоб. Бачучы ў гэтым праяву пануючае ў магістраце сыстэмы „пратэкцыі", пакрыўджаныя безработныя грамадою пайшлі да прэзыдэнта места. Заступнік прэзыдэнта Локуціеўскі адмовіўся гаварыць з імі. Тады безработныя сілай уварваліся ў яго габінэт, трэбуючы належнае ім дапамогі. Локуціевскі паклікаў паліцыю, якая ўвайшла ў гмах магістрату і сілай разагнала галодных інтэлігентаў, пры чым аднаго з іх арыштавалі.

Гэтая расправа выклікала вялізарнае абурэньне сярод усіх безработных.

**Культурна-асьветная справа.** 8-га жніўня адбылася паседжаньне Галоўнае Управы Таварыства Беларускае Школы (былай Цэнтральнае, Беларускае Школьнае Рады), на якім абгаварваўся плян працы на наступны школьны год у зьвязку з зацьверджаньнем Уладамі Статуту на ўсю Польшчу. Між іншым ухвалена: 1) зьвярнуцца да школьных уладаў з просьбай даць правы маючым быць у Вільні гадавым беларускім вучыцельскім курсам і субсыдыю; 2) адчыніць у м. Глыбокім

Памятайце, што такім быўшым афіцэрам — буржуйскім сынкам, якіх працоўныя масы выгналі з свайго краю, гэта вельмі не падабаецца, бо Грамада прызывае ўсіх да працы, да працы супольнае, роўныя з роўнымі, а ня так, як яны хочуць, каб хтось на іх прапаваў!

Той, хто перашкаджае нам у арганізацыі, гэтым самым бароніць уціск. **Дзік.**

## Экзэкуцыя.

(З Слонімшчыны).

Палягчэньня жыцьця ад часу перавароту, зробленага ў Варшаве, ждалі сяляне і нашае вёскі, але ўжо бачаць, што выйшла якраз наадварот: яшчэ шмат пагоршала!

Перш, як мелі рабіць прадажу за падаткі, дык сьпярша рабілі опісі, а цяпер вось як рабіў войт Міжэвіцкае гміны—Чалей. 24. VI. гэтага году прыехаў ён у вёску Варонічы і пачаў забіраць за падаткі ў сялян усё, што пападала яму на вочы. Браў апошнія каптаны жанчын, палатно, розную вопратку і г. д. У селяніна гэтай вёскі Яна Бэгера, яшчэ ў мінулым годзе войт Савіцкі забраў сячкарню, якая і цяпер стаіць у гмінным памешканьні, а цяпер за тыя-ж падаткі войт Чалей не знайшоў больш чаго ўзяць у гэнага селяніна, акрамя апошняга воза-брыкі. Самога гаспадара ня было ў той час дома, а на просьбы яго жонкі войт не зварочваў ніякае ўвагі. Тады жанчына села з дзіцём у брыку, ды кажа: „бярэце і мяне з дзіцём, бо ня маю чаго рабіць бяз воза ў гэткую пару“. Прысутны пры гэтым паліцыянт Казьмерчык з пастарунку Кракоткі дастаў з кішаня ланцуг, каб скаваць рукі кабеціны, але як тая не баранілася, ды яшчэ сама працягла рукі, каб каваў, дык ізноў схаваў ланцуг у кішэнь. Войт прыказаў прысутным солтысу ды яго заступніку, каб вязьлі саматужна брыку да солтысавае хаты, але як на ёй сядзела жанчына з дзіцём, ды была вельмі гразка і камяніста вуліца вёскі, — солтыс і заступнік вязьці адмовіліся. Войт стаў вельмі строга пагражаць ім, што ён іх звольніць са службы; потым сам запрогся ў брыку ды павёз яе з жанчынаю і дзіцём да солтысавай хаты. — Бо-ж гэты Чалей дужы, як малей (бык). — Гэтак баба ехала праз вёску Чалеем!

Усё забранае была зложана ў солтыса. Пасьля, хто мог, дык выкупіў свае рэчы, а хто ня мог, то й цяпер яшчэ ляжаць.

Цікаўна, ці гэта цяпер такі закон, каб забіраць за падаткі ўсё без разбору і бяз опісі, ці гэта свая ініцыятыва Чалея? Вось якая „маральнасьць“ у адносінах да нашага брата беларуса. Няведама, як яны адносяцца да тых, якія не заплацілі маёнтковага падатку ў суме 740 міліёнаў злотых?

Гэтак, браткі-беларусы, маем палягчэньне ў жыцьці ад часу перавароту! **Цікаўны.**

## „Городовой“—войт.

(Гарадэчнянская гм., Пружанскага пав.).

Наш Язэп Котыло да вайны быў „гарадавым“ у м. Пружанах,—калісь тапіў печы, ды чысьціў боты „іспраўніку“, быў першым даношчыкам на другіх.—Цяпер узяў ён сабе ў памоцнікі быўшага станавога прыстава Антона Салтруковіча,—і разам ходзяць яны ды зьбіраюць падаткі, — забіраюць апошнія рэчы ў сялян: кажухі, посьцілкі, палатно, ніці на матках і г. п.

У в. Жабін у селяніна Драбкі апісалі яны добры самавар за 5 зл. Жонка Драбкі схавала самавар, дык, як паліцэйскія сабакі, шукалі ў куфрах, кублах, у печах—і ўсё-ткі знайшлі і забралі.

У Аўдоцьці Драч з в. Шчарчова забраць яны хацелі сячкарню. А Драч удава, толькі з дзьвюма маленькімі дзяўчаткамі жыве, — пачала прасіцца, абяцуючы, што за пару дзён прынясе падатак. А войту хоць што!—схапіў сакеру, разьбіў замок у гумне,—шукае сячкарні; але не знайшоў і з тым паехаў.

У Рыгора Кавальчука з в. Шчарчова хацеў забраць воз за падаткі, але бабы не далі.

У Ів. Картакі гэтыя „гарадавыя“—войты перад жнівам забралі апошні пуд жыта, хоць гэты Картака зусім бедны—жыве ў чужой хаце,—і, сам галадуючы, пакінуў гэты пуд на час жніва.

Калі-ж хто небудзь яму паставіць бутэльку, ды паложыць каўбасу, дык як па масьлі йдзе — зусім „свойскі“. П‘е, прапівае свае сумленьне і душыць народ, высмоктываючы з яго апошнюю каплю крыві.

Хто не вярнуўся яшчэ з Расеі, над гаспадаркамі тых настаўляюць апякунства. Дык і тут войт нажываецца. Так Кліма Дубавіка ў Акружным Судзе ў Горадні назначылі апякуном над гаспадаркай яго стрэчнага брата. Войт Котыло прыйшоў сказаць аб гэтым Дубавіку. Дубавік поіць-частуе войта;—а прышла спорніца Дубавіка, дала 15 дал. войту, і войт так „закруціў“, што назначылі апякункай гэную спорніцу Альжбету Дубавік.

Гэтакая самая справа была і з Феафілай Белазерскай.—За апякунства войт вымагаў 10 дал.; Белазерская не дала іх, і войт так пакіраваў справу, што другога назначылі апякуном.

За 11 зл. у Белазерскай апісалі машыну да шыцьця. Машыну Белазерская схавала; — тады прыехалі аж 6 чалавэк забіраць машыну, ды з паліцыянтам; машыну не нашлі, аблаялі Белаз. камуністам з камуністаў, напісалі пратакол, і справа цяпер у Акружным Судзе. Муж Белазерскай у 1925 г. зрабіў куфар для гміны, за які гміна не заплаціла 10 зл.;—вось цяпер Белазерскія і хацелі гэтыя 10 зл. перавясьці на падатак, — а войт ня хоча. Пажаліліся ў старостваа, а староства адказала, што, калі яшчэ будуць гэтакія жальбы, то Белазерскага пакараюць.

Задушыў нас гэты „гарадавік“—войт. Вёскі згалелі, хлеба няма, адзежу пазабіралі, а тут зіма надыходзіць. Збожжа за падаткі пазабіралі — дык далі не абсеяны,—галодная сьмерць чакае!

**Сялянка-беларуска.**

## „Straż bezpieczeństwa“ ці нябясьпека?

(В. Альшанка, Вішнеўскай гм., Валожынскага п.)

26. VII. сёл. году ў нашай вёсцы было вясельле. На гэтае вясельле прыехаў паліцыянт з м. Вішнева № 567—Кастэцкі. Прыехаў п‘яны, як дым. Увайшоў у хату і пачаў свае заводзіць парадкі: „Я—кажа—мушу адзін танцаваць, я з хамамі не магу“.—Гаспадар у далікатны спосаб сказаў яму, што тут усе госьці роўныя. Тады паліцыянт назваў гаспадара хамам і брыдка злаяў яго. Бачучы нарэшце, што ніхто на яго не зьвяртае ўвагі, паліцыянт павярнуў да дзьвярэй, але хацеў, каб перад ім адчынілі іх прысутныя. Калі яго не паслухалі, кінуўся з рэвальвэрам да гаспадара, чаму яму не аказваюць пашаны.

Паднялася суматоха, людзі пачалі ўцякаць з хаты! А-ж раптам хтось парадзіў даць паліцыянту гарэлкі, і ўсё будзе добра.—Далі, напаілі, колькі ўлезла,—тады ён выйшаў з хаты. Была глыбокая ноч,—кінулася да яго сабака, а ён да сабакі з рэвальвэрам і не забіў толькі дзякуючы таму, што ня мог выстраліць.

Пакінуў вёску, тады йзноў пачалі весяліцца пасьля смутку й перапалоху, якога нагнаў паліцыянт.

Вось дык „straż bezpieczeństwa“! **Я. Б.**

## Нам пішуць з вёскі што:

× **Сяляне вескі Сялявічы, Слонімскага пав., пратэстуюць проці таго, быццам яны высылалі дэлегата на зьезд Паўлюкевіча, як гэта было надрукована ў „Бел. Слове“ (№ 20). Калі быў чалавек з тае вёскі, то гэта быў самазванец. Падпісалася 26 асоб.**

× У вёсцы Блудзень, Пружанскага пав., камэндант паліцыі загадаў закуць у кайданы селяніна за тое, што той пры дапросе ў справе пасьвішча трэбаваў, каб пратакол быў яму прачытаны пабеларуску. Трымалі селяніна ў кайданах—гадзіну.

× У двары Ганава, Браслаўскага пав., — сынок абшарніка Лапацінскага не заплаціў касцу Максімаву належны яму за працу 1 зл. за тое, што селянін ня ўстаў з лаўкі ў кухні, калі „яснавяльможны“ паніч да яго выйшаў.

× У вёсцы Харошчы, Слонімскага пав., паліцыянт Бялінскі з Кракоцкага пастарунку трэбаваў у селяніна Яна Бэгера, каб той дарма даваў яму абед.

Той самы паліцыянт гэтак пацяшае арыштаваных сялян: „Psia krew, jak dam ci w zęby, to i posłowie twoi nic nie pomogą“!

× У вёсцы Вітава, Бельскага пав., надлясьнічы Нікалаеў з Елінскага надлясьніцтва крэпка пабіў 18 ліпня жанчын, якія варочаліся з Белавежскай пушчы, куды хадзілі па ягады. Ягады, зьбіраньнем якіх жанчыны зарабляюць сабе на кусок хлеба, патапталі і памарнавалі.

× У вёсцы Клетнае, Бельскага пав., гмінны пісар забраў, як кару за зьбіраньне панскага гальля, у селяніна А. Казлоўскага хамут, вілы, пастромкі, вяроўку і пугу. Ня маючы змогі выкупіцца (трэба было даць 23 зл.), селянін заплаціў 2 зл. 38 гр., ды адсядзеў чатыры дні. Гэта за адзін воз гальля!..

× Абшарнік Гоўвальд з Мэйшагольскае гміны—замест плаціць сялянам за працу ў полі — „частуе“ іх „гарэлкай ды нічога ня плаціць.

× У вёсцы Туркаўшчыне, Стаўпецкага пав., пагранічная старожа (вёска на самай граніцы) забараняе жыхарам выхадзіць ноччу з хат. Салдаты-ж, карыстаючыся гэтым, бяскарна капаюць бульбу і расцягваюць гаспадарку сялян у цемнаце.

× Язьненская Грамада, Дзісьненскага пав., паставіла ў 1912 годзе памятнік цару Аляксандру II за свае грошы. Іншая рэч, што шкада было на гэта расходавацца, але раз заплачана—дык належыць сялянам. Тымчасам войт бясправўна прадаў чужую ўласнасьць за 40 злотых.

**Ад Рэдакцыі.** Трэба падаць у суд!

× Поп Далматаўскага прыходу, Нясьвіжскага пав., ладзячы працэсію ў вёсцы Лукі, вымагаў ад сялян, каб плацілі яму за прыезд (ніхто не прасіў!) адзін злоты, або аршын палатна, Грозіў, што хто не заплаціць—будзе аб ім ведаць дэфэнзыва, як аб камунісьце. Сабраў гэтакім парадкам 200 злотых!..

× Поп Марціновіч з Пружанскага пав., вядзе сьпісак тых, што ня ходзіць да споведзі, і накладае пасьля „кару“ гэтакім чынам, што ў выпадку сьмерці, ці вясельля дзярэ ў 2—3 разы больш!..

---

Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаёмаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!

---

## Паштовая скрынка.

**Грам. „Сьвітцы“.**—Вашай карэспандэнцыі: „Замест крыжа бутэлькі гарэлкі“ не зьмяшчаем, бо не падходзіць. Карэспандэнцыі аб Паўлюкевічу не зьмяшчаем, бо тое, што Вы пішаце, ужо ведаюць усе чытачы нашай газэты. З рэшты карэспандэнцыі карыстаем.

**Грам. Лявону Хмурнаму і Беззямельнаму.** Ваша стацьця не падходзіць—не зьмяшчаем.

**Грам. П. М. жыхару з в. Сакалова і з в. Дзехцярова і „Плюйцы“.**— З Вашага матэр‘ялу скарыстаем у наступным нумары.

Грамадзянам прыслаўшым вершы: Маем вершаў у гэты номер 12. Два памешчаем, рэшту, якія будуць падходзіць — выкарыстаем у наступных номерах.

**Атрымана:**

Ад: — Юр. Мацука, Сьцяпана Гацыллы, Міхала Мальцава, Д. Марчука, Базыля Сявашкі, Яна Семухі, Сьпяпана Нерашчука, Аляксандра Каўбаскі, Сьцяпана Зеляневўскага, Базыля Шурубейкі, І. Давідовіча, Сідаровіча, М. Марчука, Яна Каншавіка, Сымона Камісарава—**па 2 злотых.**

Ад:—Яна Тадаровіча, Уладыслава Гарбача, Міхала Казарэза, Францішка Валынца, Адольфа Воўка—**па 1 злотаму.**

Ад:—Мікалая Палуянчыка, І. Дзямешкі, Аляксандра Плаксы—**па 2 зл. 50 грош.**

Ад:—А. Фрыдмана, М. Зенькевіча, Яна Баканача, Яна Качэргіна, Уладзіміра Каляды, А. Кішкеля, Канст. Соські, Андрэя Пучынскага, Уладзіміра Ваўкавыцкага, Сымона Ляўковіча, Яна Горскага, Пятра Пуні, Антона Мажэйкі, Базыля Жыгаліна, Бел. Вуч. Курсаў у Радашкавічах, Жука, кс. М. Барыслаўскага, Базыля Пецюка, Мікалая Віркі, Марты Самолік, Рыгора Былінскага, Пятра Верацілы, Паўла Жыбуля, Міхала Лісоўскага, Яна Сьцепановіча, М. Міхалькевіча, Уладыслава Навіцкага, Б. Выркі, Канст. Канцявы, Міхала Чэрэпана, Казіміра Антухевіча, Губарэвіча, Н. Еўновіча — **па 3 злотых.**

Ад:—Яна Ракевіча, Мікалая Казлоўскага, М. Зёнтка, С. Жыткевіча, Яна Смыка, Пятра Мароза, Леаніда Бялькевіча, Тодара Бубена, Уладзімера Фурса, Данілы Дожына—па **4 зл.**

Ад:—Яна Янушэвіча, Адама Станкевіча, Арцёма Анішчыка—па **5 зл.**

Ад:—Яна Дразда, ад N. N. з Ліды, Рамана Дараховіча, Мікалая Жыбуртовіча, Міранюка, Аляксея Кузьміча—**6 зл.**

Ад:—С. Булаўчыка, Мікалая Геруса, Мікалая Краўчука—па **10 зл.**

Ад:—Тодара Рамейкі—3 зл. 50 гр. Канст. Шымкевіча—5 зл. 25 гр. Мікаля Піханца і Яна Бушмы — па 4 зл. 50 гр. К. Мушынскага—6 зл. 45 гр. Паўла Буські—2 зл. 30 гр. У. Вараввы—20 зл. Міхала Герасімёнка—6 зл. 50 гр. Кам. С. Р. Г. ў Горадні — 5 зл. 10 гр. Пятра Раковіча—7 зл.

---



---

Адказны-Рэдактар: Т. Крачына.

Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.

Выдавец пасол на Сойм П. Мятла.